*Рэдактар Дзмітры Плакс*

*Аўтарка выказвае шчырую падзяку Святлане Калядцы за сяброўскую падтрымку*

*У афармленні кнігі выкарыстаны фотаздымак Аксаны Данільчык*

*Данільчык, А.*
*Блюмэнштрасэ : вершы / Аксана Данільчык. — Мінск : А. М. Янушкевіч, 2018.*
*ISBN 978-985-7165-43-8.*

*«Блюмэнштрасэ» — вуліца сапраўдная і ўяўная. Яна існуе не толькі ў культурнай прасторы, але ў розных гарадах свету і, адпаведна, на розных мовах. Супярэчлівыя ўражанні, жыццё ў канкрэтнай прасторы і за яе межамі, праекцыя мінулага ў рэальны час і наадварот, асэнсаваныя ў паэтычнай форме – тэма новай кнігі Аксаны Данільчык*

**ISBN 978-985-7165-43-8**

***

*як заціхае перад бурай свет навакольны а пасля*
*зямлі напружанай дыханне напятыя адчуюць душы*
*калі спыняюцца ўсе рэкі*
*а рыбы дасягаюць дна*
*і птушкі стрымліваюць голас*
*каб гэтай цішы не парушыць*

*па ўсіх вятрах і кантынентах па ўсёй бязмежнасці зямной*
*вібруе чуйнае паветра блакітнай хваляю трывогі*
*і нашых душаў абалонкі*
*руйнуе гэты неспакой*
*і высыпаюцца пачуцці*
*на непралазную дарогу*

*на вежах круцяцца радары і пачынаецца адлік*
*зваротны да крытычнай кропкі*
*дзе ў перспектыве толькі мінус*
*а шыхт напружаных вайскоўцаў ад нечаканасці прыціх*
*і нахіляючы галовы*
*калашнікавы прэч адкінуў*

*апладысментаў мерным гукам скануецца жывы прасцяг*
*адзначаны адсутным словам*
*і ўпартай стрыманасцю жэстаў*
*хто самазванец хто сапраўдны хто гаспадар а хто ў гасцях*
*самасцвярджаецца прастора*
*маўклівай акцыяй пратэста*

***

*хачу забыцца што ёсць страх хачу забыцца*
*што нам даводзіцца за ворагаў маліцца*
*што вераб'і хаваюцца пад дах злавесны лёд*
*навіс на абразах што нейкі ціхі голас шэпча*
*за ворагаў трэба не проста маліцца у ворагаў*
*трэба яшчэ і вучыцца*
*адкінуць пустыя размовы вучыцца перамагаць*
*паступова вучыцца перамагаць раптоўна са*
*стараннем падвойным*
*і сіні снег цячэ прадоннем рэк і адгукаецца*
*далёкі смех*
*я стаўлю свечку і – наперад*
*step by step*

***

*цішыня што нас выпрабоўвае*
*падкрадаецца ззаду на дыбачках*
*закрывае нашыя вочы сваімі цёплымі пальцамі*
*цішыня што нас размяркоўвае*
*раскладае быццам па скрыначках*
*раздзяляе нас па адлегласцях*

*быццам мы вінаватыя*

*быццам мы вінаватыя*
*што таксама праклятыя*
*што і мы дакрануліся*
*у свой час не прачнуліся*

*а я прызвычайваюся да цішыні*
*шукаю яе ў схованках за шклянымі дзвярыма*
*у разрэжаным паветры чужой тэрыторыі*
*дзе мы як калісьці мурыны ў далёкай прэторыі*

*я раблюся сама цішынёй*
*прарастаю яе ліянамі*
*разліваюся акіянамі*
*выцясняючы гукавыя хвалі*
*цішыня нібыта каралі*
*сціскае шыю маю нерухома*
*і знясільвае*
*быццам стома*

---

*я свой голас схаваю ў шуфляду*
*і забудуся замкнуць на замок*
*і пакіну яго без нагляду*
*каб у сінюю далеч уцёк*

*і звінеў сярод роднага гаю*
*быццам звон што на свята склікае*

***blow-up***

*ёсць коміны падобныя да вежаў*
*яны глядзяць у ростаняў бязмежжа*
*другія сны з іх вышыні відаць*
*якія паглынулі назаўсёды*
*гісторыю краіны і народа*
*яны затоена і стрымана маўчаць*

*там круціць флюгер лічбу пакрыёма*
*год перад-рэпрэсійны дваццаць сёмы*
*зусім нябачны ў тлуме гарадскім*
*і толькі сілаю павелічэння*
*вяртаюцца далёкія імгненні*
*як лёгкі пах як воблака як дым*

*і можна ўбачыць зноў на вулках гэтых*
*драўляны Менск і маладых паэтаў*
*ні высылак ні страчаных гадоў*
*на некранутых дворыках Нямігі*
*ляжаць іх недапісаныя кнігі*
*да лепшых дзён да самых лепшых сноў*

***дзень памяці***

*а чаму ж сёння ніхто не аплаквае вас беларусы*
*хіба вашыя дзеці не ўздымаліся дымам*
*над неўзаранымі палеткамі*
*хіба вашыя вочы не былі сухімі*
*бо не маглі болей плакаць*
*хіба вы не баяліся ўдзень немцаў*
*уночы партызанаў*
*раніцай венграў*
*увечары латышоў*
*а кожны сябар у любую хвіліну мог стаць ворагам*

*чаму ніхто не аплаквае гэты суцэльны страх*
*хто прыйшоў хто сышоў*
*хто застаўся хто згінуў*
*не ведаю*

*ведаю што*
*дзве знаёмыя мне жанчыны сустракалі вайну*
*з немаўлятамі на руках*

*дзеля каго ўсе гэтыя парады*
*хіба гэта вашыя танкі*
*хіба гэта вашая зброя*
*хіба гэта вашыя сцягі*
*хіба гэта вашыя перадавыя*

*у маіх бабуляў была іншая перамога —*
*немаўляты засталіся жывыя*

*чаму ж сёння ніхто не аплаквае вас беларусы*

***

*калі Вы стаіце насупраць мяне такі рэальны такі сапраўдны і даверліва гаворыце пра наступныя цяжкія але ўдарныя пяць гадоў хіба я магу Вас пакрыўдзіць*

*хіба я магу сказаць што я не старшыня ніякай камісіі і нават ніколі не кідала за Вас белы шар*

*але маё маленькае змаганне за родныя літары мае куды большы сэнс чым усё Вашае змаганне за ўладу*

*бо ў гісторыі якая не мае ўмоўнага ладу але якую імкнуцца перапісаць зноў і зноў нішто не апраўдвае прабітых галоў*

*а сумленне пакуль яшчэ ніхто не адмяняў*

***

*Жанчыны без вачэй і без голасу*
*разыходзяцца па інстанцыях*
*запаўняюць праўладныя калідоры*
*і прылеглыя тэрыторыі*
*забываюцца на ўласныя думкі*
*і не маюць уласнай гісторыі...*

*Нашто яна ім?*

*Кожную раніцу па-над плошчамі*
*уздымаецца шэры дымок*
*прэзідэнты бягуць на працу*
*варыцца кава*

*Колькі вас*
*без вачэй і без голасу*
*ўціснутых у шэрыя сцены?*

*Пакаленне змяняецца пакаленнем.*

*Таму што сістэма шукае людзей сістэмы*
*таму што сістэма стварае людзей сістэмы*

---

*Жанчыны без вачэй і без голасу*
*разыходзяцца па інстанцыях*
*запаўняюць праўладныя калідоры*
*і прылеглыя тэрыторыі*
*забываюцца на ўласныя думкі*
*адмаўляюцца ад уласнай гісторыі...*

***

*нешта зламалася*

*такі bello y malo como **Satán** добра пастаўленым голасам спрабуе выказаць чужую волю наконт таго што робіць кaштоўнасці адноснымі кампрамісы апраўданымі а ўсмешкі шчырымі а таксама пра перавагу таварна-грашовых падыходаў да ўсякага роду стасункаў але гэтая воля ўжо непадуладная ніякім рацыянальным катэгорыям*

*не думай што ты толькі назіральнік твае вочы злучаюцца з гэтай прасторай у мностве атамаў губляецца тваё цела і хтосьці спяшаецца туды дзе можна яшчэ паспець засведчыць момант твайго распаду*

*нешта зламалася*

*на плошчу дзе енчаць валацужкі далятае пах гуакамоле*

*астурыяс адпачывае*

***развітанне з Еўропай***

*мост над Нямігай*
*між адной амбасадай і другой*
*на якім мінакоў амаль не бывае*
*дыханне паўночнага ветру гайдае*
*і то падымае то апускае*
*на спіны тралейбусаў*

*магчыма некалькі стагоддзяў таму*
*я б апынулася сярод плыні*
*і размахваючы рукамі*
*маліла аб ратаванні*

*а цяпер тут няма вады*

*толькі падае снег*
*толькі мост дрыжыць*
*па-над плынню машын*
*і змагаецца*
*з бесперапынным хістаннем*

*я імкнуся на ім утрымацца*
*не зваліцца і не разбіць галаву*
*бо тут і цяпер*
*я на гэтым уздыбленым мосце*
*жыву*

*а жоўтыя зорачкі*
*сплываюць у бок Раманаўскай Слабады*
*за невядома які далягляд*

*сіні фон вечаровага неба ізноў пусты*
*і невядома*
*ці будзе нехта чакаць іх назад*

***

*Подых вясны над шашой, над абуджаным лесам,*
*Таюць снягі, безупынна ад ранку імжыць,*
*Неверагодны Шцірліц кіруе сваім Мерседэсам*
*І дасягае нарэшце сапраўднай швейцарскай мяжы.*

*Існы арыец, ён знешне зусім не хвалюецца,*
*Хоць небарака прафесар, стары ідыёт,*
*Не заўважае трыклятых вазонаў на Кветкавай вуліцы,*
*Не заўважае – і вось ён, апошні палёт.*

*Здзекліва птушкі спяваюць у краі багатым,*
*Тут без вайны ідылічна швейцарцы жывуць.*
*Ён засынае і сніць беларускія хаты,*
*Родныя нівы, залітую сонцам траву.*

*Потым купляе ў дарогу швейцарскіх дэлікатэсаў,*
*І – на галодны Берлін, сцяўшы волю ў магутны кулак.*
*Неверагодны Шцірліц кіруе сваім Мерсэдэсам,*
*Толькі імгненні, як кулі, ляцяць у шырокі прасцяг.*

***

*Мне хацелася б напісаць індустрыяльны верш,*
*увесь з простых ліній, як супрэматычны малюнак.*
*Раскласці іх як рэйкі і шпалы па гарызанталі і па вертыкалі,*
*а некалькі наўскасяк, быццам бы выпадкова ўпалі.*

*І радавацца такому дызайну, бо з яго, як з поля дубы,*
*вытыркацца будзе комін фабрычнай трубы,*
*а па хрыбеціне пабягуць цягнікі,*
*пераскокваючы русла вычарпанай даастатку ракі.*

*Вось ён, зусім не прыроды дар, а натхнення ўвасоблены ўзор,*
*якому пара на прастор, на шырокі прастор!*
*Ён сам націскае на газ, ён рвецца ў празрысты блакіт,*
*ён перашкоды руйнуе нібы дынаміт.*

***глядзі на дарогу***

*ты не бачыш нічога ні лісця ні дрэваў толькі напрамак руху*
*здаецца што дарога сама цябе нясе і гэтае вільготнае бетоннае пакрыццё свабоднае ад перашкодаў робіцца найлепшым краявідам*
*а здаровае мурканне матора — найлепшай музыкай*
*раней цябе вучылі глядзі пад ногі а цяпер ты спыняеш усе непатрэбныя думкі і загадваеш глядзі на дарогу*
*а ў люстэрка задняга пагляда пазірае восень і туманная раніца прасякнутая сонечным бляскам што ўздымаецца з зямлі*
*раніца якую хочацца запомніць занатаваць але не*
*не азірайся Эўрыдыка*
*глядзі на дарогу*

*твой Арфей едзе на чорным джыпе па трэцяй паласе ☺*

***

*лабавое шкло зацярушана першым снегам*

*спрабую адхукаць пальцы і гляджу*
*як холад паступова завалодвае горадам*
*дзе пахавана шчасце*
*рассыпанае рысавымі зярнятамі па яго лесвіцах*
*знітаванае з водарам кавы і пахам бензіну*
*сасланае ў закінутыя будынкі*
*без права перапіскі*

*горадам дзе пахавана гісторыя*
*у яго вокнах я бачу адбіткі знаёмых твараў*

*яны накладаюцца адзін на адзін*
*празрыстымі малюнкамі*
*і расплываюцца па шкле*
*як кроплі бензіна ў калюжыне*
*яны спрабуюць зацягнуць мяне ў свае віры*
*але я не паддамся*
*і застануся ў халоднай машыне*
*чакаць сямнаццаць імгненняў вясны*

*мая місія працягваецца*

***

*спачатку я думала што мара*
*гэта паўлін*
*такі прыгожы*
*так хвост пераліваецца*
*зялёным блакітным залатым*
*проста вочы хочацца заплюшчыць ад асалоды*

*потым мне здалося што мара*
*напэўна лебедзь*
*так і мкнецца ляцець у разбэрсаныя хмары*
*не сядзіцца ёй на месцы*
*дрыгаецца то туды то сюды і дражніцца*
*схапі мяне хутчэй*

*цяпер я бачу што мара*
*гэта дзяцел*
*дзяўбе і дзяўбе*
*раніцай удзень вечарам уночы*
*тук-тук тук-тук тук-тук*

*можа ўсё ж такі скруціць ёй шыю?*

***разгубленасць***

*калі ўнутраныя ваганні*
*дасягаюць амплітуды ў сто восемдзесят градусаў*
*а яснасці так і не дадаецца*

*калі жыццё ператвараецца ў стужку навінаў*
*ніводная з якіх у свядомасці*
*так і не застаецца*

*і сонца не сонца*
*і вецер не вецер*
*і проста да рамы ваконнай звужаецца свет*

*тады нападаюць сумненні*
*быццам піранні*
*і пакідаюць толькі хрыбет*

*і хто ты пасля*
*пераконвай цяпер*
*што шукаеш спакою і міра*

*і перамога твая*
*нагадвае нечым*
*рэшткі арміі Піра*

*ты – шхуна якая гайдаецца ў моры*
*між крэйсераў чорных*
*і белых фрэгатаў*

*ты – неба ў чаканні маланкі*
*якая на хвалі ўпадзе*
*і асвеціць дарогу дахаты*

***

*завяжы на памяць вузел*
*толькі не зацягвай*

*каб нечакана не сціснула горла*
*пятля*

***

*пераменная хмарнасць не пакідае дрэвам*
*ніякіх магчымасцяў аднаўлення*
*зеляніна каштанаў робіцца цёмнай*
*каб потым наблізіцца да стадыі поўнага вынішчэння*

*сонца быццам загнаная мыш*
*шукае шчыліну праз якую магчыма выйсці*
*але зрок ужо болей не той*
*як на пачатку лета ў далёкім забытым калісьці*

*першакрокі ў нязнаную бытнасць магчыма спыніць*
*пакуль нічога яшчэ не разбіта*
*чужыя сусветы спачатку захопліваюць мяне*
*пасля выштурхваюць са сваіх арбітаў*

*я – на вуліцы Ракаўскай дзе па сто раз на дні*
*мне то вецер то сонечны бляск*
*то густыя туманы то хмары апусцяцца нізка*
*мае вены паколатыя голкамі*
*праз якія ў мяне ўліваюць жыццё*
*дастатковае толькі*
*каб забяспечыць асноўныя функцыі арганізма*

*я не ведаю болей куды я іду*
*і нашто ў рэшце рэшт мне здалося ўсё гэта*
*мяне відавочна так шмат што іншым разам*
*я апынаюся ў паралельных светах*

*я гляджу на самую сябе як праз шкло*
*як праз покрыва мройнага ранку*
*мне на плечы злятаюцца ў чорнай смузе*
*птушаняты-падранкі*

*я не бачу святла не таму*
*што заплюшчыла вочы*
*а таму што злуюся бы тысяча восаў ці проста*
*як адзін скарпіён перад тым як на ворага скочыць*

***птушкі***

*I*

*чорных варонаў шэрагі чорныя*
*чаіцаў белых крылы прасторныя*

*іх нечаканая колькасць палохае*
*быццам знікае гармонія крохкая*

*гэта не прыклад выразнай экспрэсіі*
*гэта выява схаванай агрэсіі*

*быццам прыйшла іншаземная нацыя*
*і накрыла нас акупацыя*

*II*

*дом насупраць*
*спрабуе пазбавіцца*
*ад надакучлівых птушак*
*напружваецца і*
*падкідае іх угору*
*яны падлятаюць як мячыкі*
*потым зноў сыплюцца яму на спіну*
*дом іх страсае*
*а птушкі пікіруюць на дуб*
*і лупяць па ім сваімі жалезнымі дзюбамі*
*жалуды пралятаюць са свістам*
*як свінцовае каліва*
*людзі спалохана нацягваюць шлемы*
*і абыходзяць дрэва*
*а на дрэве ці то гоман ці то лямант*
*ці то крыкі ці то енкі*
*пакуль усё не сціхае*

*а потым*

*чарада птушак*
*гайдаецца ў небе быццам ківач*
*туды сюды туды сюды*

*у некаторых войнах*
*пераможцаў не бывае*

*III*
*над маёю галавою загайдаліся арэлі*
*гэта птушкі проста птушкі наляцелі адляцелі*

*верабінавым дасвеццем ціхі свіст каля парога*
*гэта вецер проста вецер мне падказвае дарогу*

*неўсвядомлена-тужлівы вымалёўваецца ранак*
*гэта смутак проста смутак цёмна-сіні як атрамант*

*і расце трывожным гулам нейкі плёскат невядомы*
*гэта хвалі проста хвалі рвуцца — б'юцца ў сцены дома*

*перагорнутай старонкай ліст апусціцца апалы*
*гэта думкі проста думкі пакружылі і прапалі*

***

*туды дзе падымаецца рунь*
*а тапалі – смяротна параненыя байцы –*
*збялелымі пальцамі ўпарта трымаюцца за зямлю*
*я прыходжу і раскладаю вогнішчы*

*што мне той абстрактны дым айчыны*
*разам з яго салодкасцю і прыемнасцю*

*і той невядомы вецер*
*і мужчыны са смалянымі валасамі*

*я апускаю рукі ў туман і вымаю з яго антонаўкі*

*ніколі яшчэ мая прыналежнасць не была такой*

*відавочнай*

***

*не зважаючы на ўсе сродкі камунікацыі*
*на мноства гукаў што запаўняюць прастору*

*паэзія і толькі паэзія*
*застаецца маім адзіным сродкам*
*зносін са светам*

*бо паэзія —*
*гэта любоў тут і адразу*
*паэзія — гэта тое што не патрабуе адказу*
*паэзія — гэта вада — мёртвая і жывая*
*паэзія — гэта тое што мяне апраўдае*

*сонца заходзіць і неба за ім*
*радком чырвоным палае*

***

*Тут ізноў усё жоўтае і зялёнае.*
*Толькі неба светла-шэрага колеру,*
*толькі вільгаць зацягвае вокны,*
*а лісце паступова ператвараецца ў гербарый.*

*Што гэта значыць?*

*Гэта значыць, што ўсе жывыя пачуцці*
*ператворацца ў словы,*
*што галасы, уражанні, пахі*
*ператворацца ў словы.*
*І доўгімі восеньскімі вечарамі*
*думкі будуць чапляцца адна за адну,*
*закрэсляцца і выпраўляцца,*
*усплываць і падаць на дно.*

*Што гэта значыць?*

*Гэта значыць, што скончылася жыццё.*
*І пачалася літаратура.*

*І ўсё што было відно*
*зробіцца невідавочным.*
*І здасца неабавязковым,*
*але насамрэч неабходным,*
*як няспыннага сэрца біццё,*
*як нармальны ціск*
*або тэмпература.*

***восень***

*нічога з таго што было*
*ні згадкаю ні напамінам*
*нічога з таго што было*
*я сам сабе не пакіну*

*я ў гэты бялюткі дзень*
*ступлю незаўважным крокам*
*і след не пакіну нідзе*
*ні ў сэрцы ні навідавоку*

*я з чыстай свабоднай душой*
*свой погляд да неба ўздымаю*
*бо ўрэшце рэшт я дайшоў*
*да самага небакраю*

*ва ўладзе нябёсаў пустых*
*ва ўладзе адкрытай прасторы*
*душа мая быццам уздых*
*баіцца і прагне пакоры*

*душа мая быццам прамень*
*што далеч прарэзаць імкнецца*
*што раптам знікае як цень*
*і потым не застаецца*

*нічога з таго што было*
*нічога з таго што будзе*
*пройдзе туманам праз шкло*
*і ранкам мяне абудзіць*

***перапынак***

*на тэрасе з каванымі парэнчамі*
*на фоне індустрыяльнага краявіду*
*у межах здранцвелага часу*
*і ўласнаручна здзейсненых абяцанняў*
*купаюся ў сонечных промнях разам з вераб’ямі*
*падлічваю флюгеры пазначаю літары*
*перакрэсліваю рэчы што страцілі актуальнасць*
*і не маюць болей ні колеру ні паху ні глыбіні*
*так падводзяць рахункі робяць разлікі*
*і спрабуючы вызваліцца*
*ад неверагоднай стомы*
*просяць каву за кавай*

*паветра паступова выцясняецца*
*водарам свежаспечанага хлеба*
*які нагадвае пра нешта*
*можа быць пра адзінае што мае сэнс*
*і калі апускаюцца рукі*
*ад марнасці намаганняў*
*вярнуць гэтай краіне*
*яе сапраўдныя колеры*
*ён прымушае глядзець у вочы жыццю*
*што на тонкіх ножках гайдаецца па бруkaванцы*
*і ўсміхаецца блакітнымі ружамі “haute couture”*

***

*Гэй, выбірайцеся мамкі і нянькі з прыбраных кватэраў,*
*Не забывайцеся лепшыя сукні і туфлі на шпільках дастаць,*
*Клуб самотных сэрцаў “Замужняя Мэры”*
*Сённяшнім вечарам будзе вас вельмі ласкава вітаць.*

*Усе хто забыўся пра лёгкасць быцця і прывабнасць усмешкі,*
*Хто падымае цяжар на танклявых руках,*
*Хто вырашае праблемы нібыта вавёрка згрызае арэшкі --*
*Маеце гонар урэшце пачуць захапляльнае “Ах!”.*

*Хай застаюцца шкарпэткі ў кутах, а каты абдзіраюць шпалеры,*
*Хай нехта іншы гатуе вячэру і мые насы.*
*Клуб самотных сэрцаў “Замужняя Мэры” –*
*Вось яна кропля сапраўднай гаючай расы.*

***

*Сёння –*
*я ўсяго толькі п’яная мама.*
*Мне дастаткова келіху віна,*
*а стома зробіць астатнюю справу.*
*Круціцца галава,*
*і пячэцца паветра быццам медуза.*

*Я ўсяго толькі п’яная мама,*
*што складае вершы ў куфар разьбяны,*
*што націрае кнігі бы срэбра сталовае,*
*каб блішчэлі пад ранішнім сонцам.*

*Я ўсяго толькі п’яная мама,*
*і сёння я дзецям сваім пачытаю –*
*ух, пачытаю! –*
*тое, што самі яны не хочуць чытаць,*
*а потым іх гэтыя тэксты буду трымаць*
*на хісткай зямной паверхні.*

*Заўтра раніцай я ўсё гэта згадаю*
*і зразумею, што ўчора*
*я была ўсяго толькі п’яная мама.*

*А вось сёння...*

***Вызваляючыся ад стэрэатыпаў***

*Мы так прывыклі саступаць дарогу*
*і чакаць падарункаў,*
*што калі іх ніхто не дарыць*
*робім вялікія вочы...*

*Мы так прывыклі, што менавіта мужчына*
*павінен нам нешта даць,*
*а калі не можа, не хоча, не ў стане –*
*плачам.*

*Кожнаму свой лёс,*
*свой дом,*
*свая машына.*

*Выпеставаныя.*

*Можна напэўна*
*і без гэтага,*
*але я вось іх стварыла,*
*і цяпер гляджу на іх і думаю:*

*калі б усё гэта за мяне*
*стварыў нейкі мужчына,*
*я б ніколі не даведалася,*
*што абсалютна спакойна*
*магу зрабіць гэта сама.*

***Услаўленне мужчынаў***

*Бываюць дні*
*калі ніякая сцервалогія*
*не дапамагае раставіць кропкі над*
*пакласці з*
*паслаць у*
*такія дні як выдраныя старонкі*
*з жыцця жанчыны любога веку*
*але дапамога прыходзіць*
*з нечаканага боку*
*бо на свеце ёсць*
*такія стварэнні як мужчыны*
*у цэлым даволі нязручныя*
*але іншым разам*
*— іншым разам! —*
*даволі такі карысныя*
*бо нават калі ты ў поўным неадэкваце*
*і незаўважна футболіш усё*
*што трапляе пад правую*
*а часам і пад левую нагу*
*яны раптам уздымаюць вочы і гавораць*
*а вы ўсё такая ж прыгожая*

*І свет робіцца такім пяшчотным*
*і неадэкват робіцца менш неадэкватным*

*Я падскокваю па лесвіцы*
*і паўтараю сабе*
*я прыгожая я прыгожая*
*я прыгожаяяяяяяяяяяя*

*А рэха радасна*
*падхоплівае мае крокі*

***

*Маё фізічнае цела безумоўна існуе ў прасторы*
*а вакол яго існуюць блізкія людзі*
*і гэтыя людзі нават час ад часу*
*імкнуцца стварыць яму прыдатныя*
*для існавання ўмовы*
*спрабуюць яго накарміць*
*пакласці ля тэлевізара*
*зварыць яму каву*
*а раніцай выправіць на працу*
*пажадана на цэлы дзень*
*а гэтае цела як сціснутая спружына*
*ні на што не рэагуе*
*ніяк не можа пагадзіцца*
*што яго існаванне бачаць менавіта такім*
*і другога яму не жадаюць*

*Няўжо яны не адчуваюць*
*як мая экзістэнцыя*
*бы старая тканіна*
*што праляжала ў зямлі*
*тысячагоддзі*
*распаўзаецца ў руках*
*рассыпаецца ад udараў*
*тэнісных мячыкаў*
*і гэтыя валокны*
*яшчэ зусім нядаўна*
*такія моцныя*
*цяпер не вытрымліваюць*
*нават лёгкага дотыку пальцаў*

*Крохкасць зрабілася*
*яе асноўнай якасцю*
*вельмі небяспечнай*

*але незаўважнай*
*для тых*
*хто ніколі не чытае маіх вершаў*

***

*Ёсць мужчыны якія сыходзяць*
*Як толькі ўздымаецца вецер*
*Яны баяцца незнаёмага шума*
*Баяцца любові ў маіх вачах*
*Баяцца маіх сумненняў*
*Хоць я думаю, што ў выніку*
*Яны баяцца саміх сябе*

*Ёсць мужчыны, якія застаюцца.*
*Не зважаючы на вецер і навальніцу,*
*Не зважаючы на адсутнасць*
*Любові ў маіх вачах,*
*Не зважаючы на мае сумненні.*
*Проста пытаюцца: «Як ты?»,*
*Дорaць сябе*
*І запальваюць васкоўкі.*

*Калі я застаюся адна,*
*З вінoм, прыцемкамі і ліхтарамі,*
*Калі запісваю думкі на запатнелым шкле,*
*І мая душа адсутнічае тут і цяпер,*
*Са мною побач стаяць*
*Мужчыны, якія сыходзяць,*
*Мужчыны, якія застаюцца,*
*Я адчуваю сваімі далонямі*
*Субстанцыю жыцця кожнага з іх.*
*А потым я іх адпускаю,*
*Каб кожны мог узняцца*
*На сваім уласным балоніку.*

*Глядзіце, як яны расквецілі неба.*

***

*трава астывае ад першай спёкі*
*лёгкі туман падступае пад вокны*
*чуеш раптоўны рык матацыклаў*
*сярод вечаровых шпачыных спеваў*
*і разумееш: яны прыйшлі*

*прыйшлі каб сцвердзіць сваю прысутнасць*
*сваё права на хуткасць*
*і безразважны палёт*

*а на вуліцы дрэвы як панкі*
*натапырылі свае іракезы*
*і гатовыя кінуцца ў бойку*
*з кожным хто іншай веры*
*для такіх не бывае намераў*
*яны адразу б’юць без аніякай меры*

*ці мае ў глабальным кантэксце*
*ўсё гэта якое-небудзь значэнне*
*проста святло і такое ўзаемнае пранікненне*
*шчасця і болю і галавакружных нябёсаў*
*калі мае рукі*
*сплятаюцца з промнямі сонца*
*на лініях лёсу*

***

*так нечакана — праз мяне —*
*святлом і даўняю пяшчотай*
*парэчак гронка каля плота*

*іх кіславаты дзіўны смак*
*яшчэ надоўга застаецца*
*на языку*

*і цёплаю травою*
*і сонечнай нагрэтаю вадою*
*празрыстай лужыны*
*якая цэлым светам*
*зялёным жабкам і жучкам здаецца*
*зямлі ласкавай подых пракаветны*
*майго дыхання робіцца часцінай*

*такой жаданай еднасці хвілінай*
*прасякнуты нарэшце рух сусветны*
*і фарбамі квітнеючага лета,*
*і гукамі прыцішанага поля,*
*што думкі запаветныя міжволі*
*вяртаюцца ў забыты рай вясковы*
*парэчкавы агрэставы вішнёвы*

*дзе я ў бабулінай стракатай хустцы*
*парэчкі рву і да мяне малой*
*зямля звяртаецца па-беларуску*

*сакральнай мовай існасці сваёй*

***

*калі проста ляжаць пад яблыняй*
*можна адкрыць закон сусветнага прыцягнення*
*знайсці скрыжаванне часу і прасторы*
*а яшчэ супадзенне ўнутранага цэнтра сусвету*
*што нібы свята заўсёды з табой*
*са знешнім*

*і захацець вярнуцца на некалькі стагоддзяў назад*
*каб зусім іначай адчуваць час*
*так як яго адчувалі раней*
*нібыта наперадзе вечнасць*
*а дні адлічваць па світанках*
*па зменах часінаў году*
*каб цэнтры сусветаў супадалі*
*і рухаліся сінхронна*

*і магчыма аднойчы*
*убачыць як плытагоны па Нёмане сплаўляюць лес*
*як коні хаваюцца ў пушчы*
*а буслы жывуць каля кожнай хаты*
*так заўсёды было*
*і цяпер так ёсць*

*магчыма гэтае месца*
*і называецца радзімай*

***

*у пячоры дзе са столі апускаюцца сталактыты*
*што зачароўваюць сваёй прыгажосцю*
*дзе кроплі вады падаюць мерна і гонка*
*а гукі разлятаюцца па бясконцых лабірынтах*
*жыве драпежнік*

*звычайна ён спіць і ніхто не ведае калі ён прачнецца*
*адкуль выйдзе і калі нападзе*

*для адных ён прымае воблік мінатаўра*
*для другіх царыцы Тамары*
*для трэціх...*

*гэты драпежнік – твой страх*

*ёсць толькі адзін спосаб даведацца хто ён*

*спусціцца ў пячору*

***

*гладкае як камень аблашчаны морам*
*неверагодна моцнае ў абмежаванай прасторы*
*несувымерна далёкае*
*неадпаведна прыцягальнае*
*незнаёмае і разам з тым пазнавальнае*

*цела антычнага бога на старажытным малюнку*
*на сучасным фотаздымку*
*мастацтва і стылізацыя*
*арыгінал і яго імітацыя*
*і ў гэтых культавых стварэннях*
*стварэннях культу*
*цела і не толькі*
*ты можаш не бачыць вобразаў*
*а дыхаць няўлоўным водарам*

*глыток паветра*
*і ўсё знікае*

*і застаецца праекцыя*
*цела і ягонага ценю*
*на матрыцы тваёй свядомасці*
*рэальнае і жаданае*
*застылае ў нерухомасці*
*але ўнутрана неспакойнае*
*нібы твой уласны адбітак у люстры*

*а ўсё астатняе пытанне інтэрпрэтацыі*

*так казаў Заратустра*

***

*у ноч калі вецер робіцца крыкам[1]*
*і завісае на правадах*
*і запаволеным доўгім гукам*
*калыхае мембраны свету*
*шкілет выходзіць на бераг*
*з водарасцямі ў руках*
*шкілет выходзіць і раптам*
*ператвараецца ў чалавека*

*яго імпульсіўныя рухі*
*поўныя жалю і скрухі*

*спачатку між бляклых халодных агнёў*
*ён ходзіць па скалах вільготных*
*над пенай марской і над доляй людской*
*спявае аб лёсе гаротным*
*да кожнай хаціны дзе блісне святло*
*ён грукаецца ў адчаі*
*а потым глядзіць на чужое жытло*
*і слёзка з вачэй выцякае*

*і разам са слёзкай крыштальнай*
*ён робіцца непазнавальным*

*цячэ і цячэ несупыннай ракой*
*змяняюцца словы і песня*
*змяняюцца рукі аблічча спакой*
*павольнаю музыкай песціць*
*з улоння прамаці-зямлі паўстае*
*жанчына світальнай парою*
*б’е ў сонечны бубен і ціха пяе*
*пра новае цела жывое*

*ці гэта вядзьмарства замовы*
*ці проста вяртанне любові*

*расчэсвае косы жанчына-шкілет*
*і слухаюць сонныя людзі*
*чароўныя словы пра зменлівы свет*
*пра марнасць спрадвечных ілюзій*
*яна ахінае сівым туманом*
*свае нессмяротныя плечы*
*нітуюцца ў прыцемках смерць і жыццё*
*і доўжыцца род чалавечы*

---

**1** *Па матывах казкі К. Эстэс.*

***

*лесавік лесавік аддай мне гэтыя ягадкі*
*а я буду паслухмяна прыходзіць у лес*
*распавядаць табе розныя казкі ды забаўкі*
*з жыцця чалавекаў з ягадкамі і без*

*лесавік лесавік аддай мне гэтыя кветачкі*
*я імі ўпрыгожу свой сціплы будан*
*а як узыдзе поўня і пазасынаюць дзетачкі*
*прыляціць на іх водар срэбракрылы кажан*

*лесавік лесавік аддай мне травіцу гэтую*
*а я вытку мурожны сабе дыванок*
*пакладу каля ганку накрыю сурвэтаю*
*і пастаўлю вужакам ядлоўцавы сок*

*лесавік лесавік аддай мне гэтую птушачку*
*каб ззяла сваімі вачыма ўначы*
*а я дам табе на памяць чырвоную стужачку*
*каб не забыўся што мяне прыручыў*

***

*памятаю бусел спачатку прынёс мяне ў лес*
*і ўжо там мяне падабралі людзі*
*прынеслі ў вёску і доўга думалі*
*што ж гэта за дзіцё такое*

*як толькі я навучылася хадзіць*
*заўсёды сыходзіла ў лес*
*клалася на траву падобнай да якой больш нідзе няма*
*глядзела ў вочы суніцам і слухала ўсё*
*што расказвалі сосны*

*можа таму і ў словах маіх*
*не шум марскіх хваляў*
*не шум жытняга поля*
*а галасы птушак і лесавікоў*

*можа таму я адчуваю сябе шчаслівай*
*на беразе ляснога возера*
*вада якога так супакойліва звініць у спёку*

*бо там мой дом*

***

*застаўся час*
*яшчэ мая душа вось так*
*нібы перад паўночным ззяннем*
*захоплена адлічвае хвіліны*
*перад безмежнасцю знаёмых краявідаў*

*там хвалі ўзгоркаў коцяцца паволі*
*да белага пяску балтыйскіх выдмаў*

*там ёсць сады дзе выспяваюць дзеці*
*а час адлічвае сонцавароты*
*да той пары пакуль не стане відавочным*
*і непазбежным пакіданне саду*

*каб зведаць што такое боль і смутак*
*і каб адольваючы перашкоды*
*ніколі больш назад не азірацца*
*да той пары пакуль не стане відавочным*
*і непазбежным што пара вяртацца*

*у сад які ніколі больш не будзе*
*тым самым цёплым выраем дзяцінства*

*ды па-ранейшаму спяваюць птушкі*
*і пад яго раскідзістым шаптаннем*
*былыя дзеці ўрэшце спасцігаюць*
*сваю даўгачаканую дарослацць*

*застаўся час*

***

*лён забірае мяне да апошняй згадкі*
*ў свой незвычайны зялёны колер*
*і я пачынаю глядзець на свет зялёнымі вачыма*
*а калі губляюся ў ільняной прасторы*
*згадваю тое што здаецца ніколі не ведала*

*гэта абуджэнне маёй генетычнай памяці*
*гэта абуджэнне падсвядомага досведу*
*жанчынаў майго роду і тых*
*што былі да іх і што будуць пасля мяне*

*я чую як выспяваюць суніцы*
*як шэпчуцца русалкі ў вадзяных касачах*
*як абуджаюцца навальніцы*
*і адбіваюць маланкі ў шырока расплюшчаных вачах*

*хто ты жанчына ільняная*
*зямлёю гэтай народжаная і ўзгадаваная*
*зямлёю гэтаю захаваная*

*тая што ведае*

****

*раніца*
*злоўленым ветрам выслізгвала з шоўку фіранак*
*дзень*
*распускаўся бутонамі ружаў і гіяцынтаў*
*вечарам*
*маланкі залатымі матылямі біліся ў вязніцах хмараў*
*уночы*
*змеі маіх бранзалетаў кусалі цябе за плечы*

*Святла было так многа, што яно не магло змясціцца ў абалонку зямлі, яно вылівалася цераз верх як малако з перапоўненага збанка. Я выходзіла на тэрасу і слухала як вецер прадзіраецца праз сосны. Пасля глядзела на сонца і бачыла як сонца заходзіць за мора, а людзі садзяцца на дзюны і глядзяць на сталёвую паверхню мора і на гранатавае неба. І не было там нічога незвычайнага і незвычайным было ўсё.*

*я нічога не выдумала*

***

*бурштыны*
*дробныя як крышталікі цукру*
*змяшаныя з пяском і марской травой*
*высвечваюцца сонечнымі промнямі*

*жанчыны перабіраюць пясок*
*і знаходзяць абсалютную радасць*

*пасля шторма мора нібы выбачаецца*
*за былую нястрыманасць*

*калі б я павінна была напісаць нацюрморт*
*то паставіла б на стол шклянку з мёдам*
*а вакол рассыпала бурштыны*

*ёсць нешта ў гэтым:*
*шукаць бурштыны*
*і знаходзіць абсалютную радасць*

***

*і было амаль як у фільме антаніёні*

*нетаропкі вецер варушыў лісце*
*прыдарожнага хмызняку*
*і яго шолахі казыталі слых*
*не, не трывожным, насцярожаным шумам*

*у гэты момант я сам ператвараўся ў слых*
*і забываўся пра тое,*
*што хутка скончыцца лета*
*і, магчыма, з-за гэтых самых хмызоў*
*выйдуць паляўнічыя са стрэльбамі*
*і я, былы чалавек што стаў воўкам*
*ператварусяў беззабаронную істоту*
*якую ратуюць толькі ногі*

*а цяпер я слухаў вецер*
*і вучыўся адрозніваць у яго шуме*
*голас лёсу які я так і не пачуў*
*пакуль быў чалавекам*

*я не пачуў*
*як прагучаў стрэл*

***

*быццам*
*ламаная лінія*
*на маніторы*
*іронія*
*выгінаецца*
*сваімі іголкамі*
*за кожнае слова*
*чапляецца*
*хто ты*
*гаргона гарпія*
*або леда*
*з якой невядомай*
*кнігі жыцця*
*твае імгненныя веды*
*сама да сябе*
*да ўласных*
*глыбінь скіраваная*
*лашчыць і паступова*
*збівае*
*пяшчотна*
*прыхаваная*
*іронія*

***

*клік – і*

*адзін за адным*
*па экрану дысплэя*
*прабягаюць твае эратычныя фотаздымкі*

*на фоне нявызначаных краявідаў*
*на фоне феерычных малюнкаў*
*фьордаў вулканаў тунэляў аэрапортаў*

*з вачыма абароненымі*
*сонечнымі акулярамі*
*зусім не ад сонца*

*за якімі – Бог ведае! – якія хаваюцца думкі*
*а можа нават не думкі*
*а можа нават і не хаваюцца*

*падазраю што там усяго*
*толькі адна думка*
*скіраваная мне ва ўлонне*

*вялікая пяшчотная думка*

***

*мара аб паэтычным слове будзіць мяне сярод ночы*
*я прадзіраю вочы і разглядаю начны краявід за вакном*
*выгляд зімовага гораду нейкі жабрацка-сірочы*
*і гэтаксама жабрацка-сірочы кожны асобны дом*

*цені ад поўні кладуцца галінамі дрэваў*
*рух пачынаюць па шэрай бетоннай сцяне*
*фары машынаў то злева направа то справа налева*
*іх калыхаюць у нейкім злавесным паўсне*

*мара аб паэтычным слове курчыцца ў дальнім завулку*
*драпае сцены і болей не можа маўчаць*
*я выпускаю паўсонныя думкі з зацішных прытулкаў*
*і пачынаю за імі нібыта здалёк назіраць*

*можа валькірый палёт ці палёт маргарыты*
*ветрам узняўся і дзверы ў суседні сусвет адчыніў*
*перада мною світанак паўстаў як разгорнуты світак*
*дзе засталіся сляды маіх словаў таму хто мяне не прысніў*

***крыху філасофіі перад тым як заплюшчыць вочы***

*цёплае цёплае паветра наэлектрызаванае*
*пераднавальнічнымі токамі —*
*праваднік маіх думак у навакольнае асяроддзе*

*пра экзістэнцыйныя несупадзенні*
*і маленькія нязначныя супадзенні*
*якія ніяк ні на што не ўплываюць*

*пра самае адчувальнае –*
*тое што адным мы даруем недаравальнае*
*а другім не даруем дробязяў —*
*гэта і ёсць тэорыя адноснасці ў дзеянні*

*і будуць ляцець самалёты*
*ухіляючыся ад маланак і абмінаючы хмары*
*і падставяць твары дажджу*
*кармазынавыя вішні*
*а я прымружу паўсонныя вочы*
*і патанаючы ў паветраных ямах*
*адчую як скаланаюцца рэкі*
*прымаючы водаў нябесных падзенне*

***rem verba sequentur***

*прачытаныя кнігі*
*раскіданыя па зямной паверхні*
*перамешаныя з вадой, небам і глінай*
*нагадваюць з вышыні птушынага палёту*
*рэшткі разбітага сэрца*

*яго накрываюць аблокі сваімі далонямі*
*яго абдымае туман сваім подыхам*
*каб затрымаць у жыцці яшчэ на некалькі імгненняў*

*і пакуль глеба робіцца цёмна-барвовай*
*сэрца ператвараецца ў маленькую кропку*
*якая слаба міргае*

*гэты маячок прываблівае шэрага ястраба*
*чыё пільнае вока пераадольвае адлегласць*

*і раптам адкрываецца чыстае поле*
*на якім не засталося нават словаў*
*бо словы пайшлі за сэрцам*

*rem verba sequentur*

***

*у той час як мае пальцы стукаюць па клавіятуры*
*быццам кроплі дажджу па вадасцёку*
*выбіваючы мелодыю думкі*

*неба ўсмоктвае горад*
*у барвовую расколіну*
*што падзяляе яго на два берагі*

*па залатым беразе скачуць залатыя вершнікі*
*пераскокваюць праз вогненную раку*
*і знікаюць у чырвоным марыве*

*на чорным беразе вянуць чорныя ружы*
*засыпаюць сваімі пялёсткімі далягляд*
*за якім нічога не бачна*

*ні еўропы ні беларусі*
*ні заняпаду ні адраджэння*

*толькі пыл што калаўроціцца на месцы горада*
*які праваліўся ў неба*

*вось ён канец цывілізацыі*

*а нехта спрабаваў дакрычацца*

***

*твая памяць – срэбная сетка*
*ў якую заплываюць чырвоныя рыбкі ўспамінаў*
*з цягам часу яна робіцца рэдкай*

*чырвоныя рыбкі*
*вольна заплываюць вольна выплываюць*
*а віхуры залацістых плыняў іх у паветра ўздымаюць*

*твая памяць – срэбная сетка*
*якая ўжо нічога не можа злавіць*
*павесь яе на парэнчы ля пірса*
*хай сушыцца пад сонечнымі промнямі*
*аздабляючы шлях да мора*

*рыбінымі вачыма пазірае прастора*

***

*бэзавыя птушкі на жоўтых кветках*
*узніклі ў той момант*
*калі мае павекі здрыгануліся*
*і я вярнулася з нечаканага палёту*

*разбураная псіхадэлічнасць уяўленняў*
*яшчэ доўга нагадвала пра сябе*
*кожны раз калі я закрывала вочы*

*я памятала як узмахвалі крыллем*
*бэзавыя птушкі на жоўтых кветках*
*пакуль з мяне выскрабалі душу*

*о святло і таямніца боль і асалода*
*двухаблічная памяць*
*з падступнай усмешкай прыгажосці*

***

*калі я пішу я быццам выходжу на паверхню быццам*
*застаюся без вопраткі не глядзіце на мяне я сама ў*
*сабе мой голас робіцца бязгучным а жэсты*
*незразумелымі так пішацца музыка ў паветры*
*працятым срэламі хмарачосаў але ці засталося ў ім*
*месца для музыкі можа быць ў ім ёсць месца для*
*аднаго толькі маўчання*

*напішы напішы боль ты ведаеш якое яго гучанне*

*боль гэта не крык боль гэта камень гэта скамянелая*
*кроў якая нікуды не рухаецца прынамсі здаецца што*
*яна болей не рухаецца гэта скажоныя выявы якія*
*набываюць гратэскныя формы і боль павялічваецца да*
*неверагодных памераў выходзіць за межы*
*агульнапрынятых нормаў ён палохае ён не імкнецца*
*схавацца але цела працягвае з болем змагацца*
*здрабняючы яго на часцінкі рассыпаючы на палавінкі*
*да стадыі поўнага ігнаравання*

*дзеля таго каб працягваць жыць без неабходнасці*
*даказваць права на ўласнае існаванне*

***вада за акном***

*праз туман*
*праз усе адценні шэрага*
*праз усе адценні срэбнага*
*падсвечанага цьмяным сонцам*
*ззяюць іх шчыты*
*паблісккваюць іх дзіды*
*чуюцца іх крокі*
*чуюцца іх спевы*
*ўрачыстыя як літургія*

*праз туман*
*праз усе адценні шэрага*
*праз усе адценні чорнага*
*прасвечанага начнымі паходнямі*
*святло дрыжыць на вадзе*
*святло прабіваецца праз ваду*
*уздымаецца з дна ракі*
*дзе сваё пахавалі золата*
*і пайшлі шукаць сабе славы*
*дзеці туману нібелунгі*

*ці ўсе тыя рэкі*
*пераліваюцца адна ў адну*
*ці ўсе тыя туманы*
*пераходзяць адзін у адзін*
*ці ўсе тыя песні*
*распавядаюць пра адну гісторыю*
*пра адзін пярсцёнак*
*пра адну здраду*
*пра адно забойства*

*так, гэта мы*
*самазнішчальныя*

*дзеці туману*
*бясконцага*
*як гэтая зіма*

***

*там дзе скрыжаваліся маланкі*
*дзе ўзнікаў непрадказальны час*
*дзе бруіліся ў тумане ранкі*
*мы пакінулі свае прыстанкі*
*і пайшлі каб адшукаць адказ*

*нам чамусьці моцы не ставала*
*нам хацелася пайсці назад*
*але там наперадзе Вальгала*
*нечаканай радасцю паўстала*
*ззяннем залатых сваіх палат*

*і забыўшыся пра перашкоды*
*і стрымаўшы пераможны спеў*
*мы пайшлі да прывіднай свабоды*
*мы расчытвалі нямыя коды*
*на галінах старажытных дрэў*

*там дзе баль чаканнем вечным бою*
*дзе за боем непазбежны баль*
*там дзе рэкі з вогненай вадою*
*а пасля пагібелі ў двубоі*
*новую душу куе каваль*

*дзе шчаслівы край магутных вояў*
*дзе гучыць узнёслы гімн багоў*
*дзе прытулак самых светлых мрояў*
*ёсць надзея меч знайсці герояў*
*ёсць надзея нарадзіцца зноў*

***адчужанасць***

*на панцыры вогненнага дракона нечаканая прахалода*
*ляжу ухапіўшыся за выступы гарбаносыя*
*парослыя мохам і не адчуваю як вогненная прырода*
*выплёўвае з нетраў ягоных полымя безгалосае*

*калі напаўзаюць яшчары неба грамадай паніклаю*
*калі накіроўваюць тонкія стрэлы вятры-паляўнічыя*
*ён млява ашчэрвае пашчу з чырвонымі ікламі*
*і радасна забаўляецца з новай раптоўнай здабычаю*

*я на яго спіне трапляю то ў пекла то ў выраі срэбныя*
*малюнкам на лускавінах любуюся быццам мапаю*
*мне незаўважна як абсалютна больш непатрэбныя*
*падаюць мёртвыя ксеніі*[2] *побач з вялізнай лапаю*

*мне не відаць як на скуры платанаў зіяюць абпаліны*
*як пад цяжарам ягонай хады камяні разбураюцца*
*і як дыханне ягонага вынік аддалены*
*вогненным веерам па-над азернай вадой уздымаецца*

---

2 “Ксеніі” – “дарункі гасцям”, таксама цыкл вершаў Э. Мантале.

***

*пчолы мядовыя стварэнні*
*кружаць вакол мяне*
*вязнуць у мядовых рэках*
*жоўта-васковых цёмна-залатых*
*павольна-густых*
*нараджаюцца ў іх і паміраюць*

*мураш з-пад лісціка мяты*
*ўглядаецца ў соты*
*з якіх складаецца свет*
*дзе свядомасць балансуе*
*паміж неўсвядомленым быццём*
*і яго рэальнымі праявамі*

*што ёсць мая вінаватасць*
*што ёсць вінаватасць іншага*
*кветкавы пылок*
*сабраны ў каморках сотаў*

*жоўты вохрысты залаты*
*васковы бурштынавы*
*чорны*

*сублімацыя*
*несмяротных/смяротных джалаў*
*прыхаваных у цёмным кутку*

***гісторыя пра кітайскага студэнта***

*у цэлым гэта быў даволі нярвовы дзень я хвалявалася ад самай раніцы і разам з машынай ледзь не трапіла пад грузавік але мая машына сказала “нас не дагоніш” і так пабегла што грузавік і сапраўды нас ужо не дагнаў*

*і дзякуй Богу бо на гэтым гісторыя магла б скончыцца ўвогуле не пачаўшыся*

*пасля машына мая сказала: ідзі ты нагамі а я цябе пачакаю таму на ў некаторым сэнсе дзяржаўна-важнае мерапрыемства я і пайшла пешкі*

*не тое каб я чагосьці баялася але неяк няўтульна мне было*

*і пайшла я праз мост а насустрач мне кітаец ідзе і спявае*

*прыслухалася я і пачула оду да радасці*

*неба на тое яно і неба каб пасылаць нам добрыя звесткі я зразумела што баяцца няма чаго і мне захацелася спяваць разам з кітайцам*

*добра што па вуліцы Багдановіча ходзяць кітайскія студэнты і спяваюць зусім не кітайскія песні*

*а то іначай што б я зразумела*

***гісторыя пра супэрмэна***

*быў такі перыяд архіў-праца-архіў і ўсё бягом ды бягом і так блізка здаецца але пакуль прабяжышся то і сілы ўсе патраціш*

*вось былі б крылы я б лётала туды-сюды*

*а так я толькі па лесвіцы лётаю туды-сюды зверху ўніз знізу ўверх*

*дык вось лячу я так зверху ўніз па лесвіцы а насустрэч мне супэрмэн*

*валасы ў яго цёмныя майка сіняя супэрмэнская а правая рука ў гіпсе*

*я гляджу на яго і пачынаю спачуваць што маўляў палёт не задаўся*

*а ён глядзіць і ўсміхаецца ну не задаўся, халера*

*і я ўсміхаюся а потым узлятаю над Нямігай над мостам над Петрапаўлаўскай царквой ажно да самай вуліцы Ракаўскай і так мне файна ляцець быццам усё жыццё я толькі гэта і раблю*

*а супэрмэн памахаў мне незламанай рукой і стаў падымацца па прыступках*

*пакуль яшчэ тая, другая, зажыве*

***гісторыя пра зялёныя пазногці***

*купіла я неяк зялёны лак і пафарбавала ім пазногці сяджу сабе ды радуюся што праца ў мяне сёння выключна ў канторы і ехаць нікуды не трэба*

*дык вось гляджу я так на свае зялёныя пазногці, ажно раптам выклікаюць мяне і кажуць едзь з начальствам*

*што зробіш трэба ехаць а часу на тое каб пазногці перафарбаваць ужо няма*

*паглядзела начальства на мае пазногці і спыталася а чаму зялёныя*

*а я спыталася ў якім сэнсе*

*а начальства адказала чаму не чырвоныя а потым пачало само сабе разважаць чырвоныя азначаюць каханне, зялёны азначае надзею, то зялёныя пазногці азначаюць надзею на каханне*

*чырвонага ў мяне няма адказала я а потым спыталася а блакітны што азначае у мяне яшчэ блакітны ёсць*

*спакой напэўна адказала начальства*

*каціласся нашая машына па горадзе М. а я ўсё думала а чаму ж такі ў мяне няма чырвонага лаку для пазногцяў*

***гісторыя пра бабульку з “Беламорам”***

*перасялілася я ў новы дом ну не тое што новы дом стары але для мяне новы хоць і жывуць у ім у асноўным пенсіянеры*

*жанчына я ветлівая з суседзямі вітацца стараюся хоць і не ўсе адказваюць*

*і заўважыла я што ля суседняга пад’езда часцяком сядзіць на лавачцы бабулька п’е каву і паліць “Беламор”*

*ці часта вы бачыце што ў нас бабулькі паляць ды яшчэ на вуліцы ды “Беламор” я дык упершыню*

*і стала я думаць, а дзе ж гэтая бабулька навучылася паліць “Беламор” можа яна ў маладосці была яшчэ тая авантурыстка і трапіла ў мясціны не надта аддаленыя а можа яна з рэпрэсаваных а можа змагалася на фронце і захавала звычку да “Беламора” на ўсё жыццё*

*так хаджу я і ўсё пра гэта думаю але не магу ж падыйсці і спытацца хоць іншым разам мне і хочацца папаліць разам з ёю*

*выходжу я раніцай восьмага сакавіка на працу а мая бабулька ўжо п’е сабе каву ля пад’езду і “Беламор” паліць*

*яна мне са святам здароўя там кахання і я ёй са святам і вам таго ж*

*хто ведае можа гэта і ёсць так званая жаночая салідарнасць*

***гісторыя пра анёла***

*снег усё сыпаў да сыпаў, а яго усё не чысцілі і не чысцілі пастаяла мая машына некалькі дзён і засумавала, і я без яе засумавала хоць кожны божы дзень яе з-пад снегу выкопвала*

*і вырашыла я нарэшце паехаць бо сколькі ж можна без машыны*

*з месца мы скрануліся а далей забуксавалі бо дарога зусім не прыбраная*

*выйшла я з машыны ў лакірках узяла шуфель думаю што рабіць буду сама дарогу чысціць і раптам бачу ідзе па дарозе проста да мяне чалавек у будаўнічай спецоўцы і гаворыць*

*не трэба вам шуфель вы і так выедзеце*

*падказаў мне як на счапленне націскаць як на газ падштурхнуў ззаду і я паехала*

*падзякавала я яму аварыйкай выехала на шырокую дарогу і зразумела што быў гэта не хто іншы як анёл божы бо адкуль пасярод пустой зімовай дарогі чалавеку ўзяцца*

*і радасна мне стала што не адна я ў гэтым свеце і што анёлы іншым разам з’яўляюцца ў самым нечаканым выглядзе*

***гісторыя пра дзяўчынку на арэлях***

*вось і прыйшла вясна і гарачыня з ёю нечуваная хмары час ад часу праплываюць па-над даляглядам і бліскаўкі недзе бліскаюць але каб сапраўдны дождж пайшоў то не на нашай вуліцы ён чамусьці не ідзе*

*выходжу я на двор вечарэе двор пусты усе разышліся па хатах дажджу чакаць а паветра і праўда дажджом поўніцца і бэзам а ён у нас усіх колераў але белы самы прыгожы*

*праходжу я праз двор настрой у мяне паганы бо жыццё здаецца бессэнсоўным а дзе той сэнс узяць я не тое што не ведаю але хочацца як снайпер патрапіць дакладна*

*і чую я раптам песню ў пустым двары а гэта дзяўчынка гайдаецца на арэлях размахвае рукамі і спявае пра горад мары ў які яна павінна вярнуцца*

*і так усё гэта было кінематаграфічна што спынілася я і стала слухаць а калі яна скончыла то папляскала ёй а яна сказала дзякуй*

*і падумала я што двор у нас нейкі таямнічы і жывуць у ім незвычайныя людзі і што ўсё гэта невыпадкова*

*а навальніца-такі грымнула і маланка так асвятляла наваколле быццам гэта былі пробліскі геніяльнасці што час ад часу надараюцца ў гэтым свеце*

***Мілан***

*На вуліцы Цёмных Кветак*
*мне раптам адкрылася безліч*
*падземных нябачаных плыняў,*
*энергій, што з напластаванняў*
*гісторый чужых пілігрымак,*
*выходзілі на паверхню*
*і тут, ужо ў плынях паветра,*
*спыняліся над брукаванкай*
*і дыхалі ў твары тубыльцаў.*

*На вуліцы Светлых Кветак*
*вярталіся раптам з нябыту*
*старыя забытыя рэчы:*
*паштоўкі, гадзіннікі, лінзы,*
*што ў бляску зімовага сонца*
*імкнуліся зноў нарадзіцца*
*для новых напружаных жыццяў.*

*А я, прасціраючы рукі*
*ў святле невыноснага рання,*
*расчытвала дзіўныя назвы,*
*збірала па кроплях сюжэты,*
*застылая на скрыжаванні*
*ад вуліцы Цёмных Кветак*
*да вуліцы Светлых Кветак.*

***Модэна***

*Голуб, што адпачывае*
*на прыступках сінагогі,*
*гатовы ў любы момант*
*адляцець як мага далей*
*ад месца, дзе нетрываласць*
*створанага чалавекам*
*разбягаецца расколінамі па сценах.*
*Ён ведае, што такое землятрус.*
*А паколькі яму яшчэ рана паміраць,*
*ён займаецца тым, што марыць*
*пра наступнае жыццё.*

*Мая самота*
*нікому не кідаецца ў вочы,*
*пакуль усе ідуць, іду і я.*
*Потым усе знікаюць,*
*а я застаюся спасцігаць*
*чужую рэчаіснасць.*

*Але як толькі*
*халоднае пасляпаўдзённае святло*
*ці то зімы, ці то прадвесня*
*запаўняе прастору вуліц,*
*край, які ніколі не стане маім,*
*сціскае мяне тваімі абдымкамі.*

***Ферара***

*Назіраючы за гэтай жанчынай*
*з прывабнай усмешкай,*
*якая проста ідзе без парасона*
*па даждлівай вуліцы,*
*ніхто і не здагадаецца, што гэта ўсяго толькі*
*змеяня, якое спрабуе вылупіцца з яйка,*
*прабіцца на святло,*
*змеяня, што выгінаецца і шукае паратунку*
*ў прыцемках неўсведамлення.*

*Пад шкарлупіннем*
*цела крывавіць чырвонымі кропкамі капіляраў*
*і запаўняецца вобразамі,*
*якія пераходзяць адзін у адзін,*
*набываюць новыя формы,*
*мяняюць сэнс навакольнага асяроддзя,*
*светабачанне і светабудову.*

*Змея ня вылупіцца, калі апусцеюць вуліцы,*
*калі дождж змые крывавыя сляды,*
*а мокры замак з чырвонай цэглы*
*асвецяць начныя паходні.*

*І слізгане па брукаванцы,*
*і схаваецца пад вежай.*

*Няўлоўнае і непрадказальнае,*
*як сама паэзія.*

***Балонья***

*Непазбежныя пераўтварэнні,*
*калі адлегласць у часе і ў прасторы,*
*здаецца, тлумачыць самую сябе –*
*хоць гэтае тлумачэнне*
*і не з'яўляецца вычарпальным –*
*зачароўваюць нованароджанымі выявамі.*
*Жыццё ёсць сон...*
*Але жыццё не ёсць сон.*

*Прачнуцца і па белых дахах,*
*дзе скручваецца лёгкі дым,*
*прабегчы здзіўленым паглядам,*
*і не паверыць на імгненне,*
*што гэта снег, сапраўдны снег, –*
*на кветках, правадах ліхтарняў*
*і на адкрытых століках кавярняў.*

*Я адкрываю аканіцы*
*і думаю: мне гэта сніцца.*

*Але вяртаецца рэальнасць,*
*дзе ўсіх уцёкаў бачна марнасць,*
*а ўсіх памкненняў ідэальнасць*
*рассыпецца імгненна ўшчэнт.*
*Так проста – твар у твар сустрэцца,*
*і – знерухомець, заглядзецца,*
*як цераз порцікі-тунэлі*
*праходзіць белы сілуэт.*

*А снег — прысуд або збавенне,*
*мая параза ці маё паразуменне,*
*мая нагода знікнуць назаўжды*
*у белым горадзе, дзе белыя сляды*

*ужо не патрабуюць тлумачэнняў.*

***Аэрапорт Мальпенса***

*Пераадольваючы горныя хрыбты*
*нібы прыступкі светасузірання,*
*душа няспынна рухаецца ўперад,*
*пакуль сама сабой не захлынецца*
*і затрапечацца, і скаланецца.*

*І вось тады ў транзітным існаванні*
*між хаатычным броўнаўскім рухам*
*яна застыне тут навідавоку*
*і спыніцца — нібы правесці рысу*
*паміж мінулым і наступным крокам.*

*Каб адштурхнуцца і пайсці далей,*
*туды, дзе ад людзей і ад падзей*
*яе падымуць у нябеснае адхланне*
*і панясуць бязгрэшныя аблокі.*

Аксана Данільчык — аўтарка паэтычных зборнікаў «Абрыс Скарпіёна» (1996), «Il Mezzogiorno. Поўдзень» (2006), «Сон, які немагчыма забараніць» (2011), кніжкі вершаў для дзяцей «Павуцінка на агрэсце» (2005). Вершы друкаваліся ў беларускіх перыядычных выданнях, уваходзілі ў калектыўныя зборнікі і анталогіі, перакладаліся на іншыя мовы.

# Оглавление